

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь,
твой народ
дачакаецца
Залацістага,
яснага дня!
М. Багдановіч.*

№ 2 (148), СТУДЗЕНЬ 2013 ГОДА


ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

# ЦВЯРОЗЫ НАРОД УЛАДАМ НЕ ПАТРЭБЕН

**З 1 студзеня ў Беларусі паводле пастановы Савета Міністраў спынена вытворчасць і рэалізацыя пладова-ягадных ардынарных він. Аднак падобная мера аказалася ўсяго толькі добрай імітацыяй у бурнай дзейнасці ўладаў па барацьбе з п'янствам і алкагалізмам. Беларусы працягваюць співацца. Алкагалізацыя насельніцтва стала палітычнай праблемай.**

На сённяшні дзень па даным Мінздрава, фактычны ўзровень спажывання алкаголю перавышае 15 літраў на чалавека, што ў 2,5 разоў вышэй сярэдняга паказчыка ва ўсіх краінах свету. Варта заўважыць, што па стандартам Сусветнай арганізацыі аховы здароўя 8 літраў спіртных напояў на душу насельніцтва ўжо з'яўляецца крытычна дапусцімым паказчыкам, за мяжой якога пачынаецца дэградацыя нацыі ў эканамічным, сацыяльным і дэмаграфічным дачыненні.

Прыкметы дэградацыі насельніцтва Беларусі ўжо не хаваюць і афіцыйныя органы ўлады. Так, у сваіх папярэдніх справаздачах Белстат паведамляў пра тое, што ў Беларусі за 20 гадоў істотна вырасла рэалізацыя алкаголю – да 13,3 літра абсалютнага алкаголю на душу насельніцтва ў 2011 годзе, а таксама спажывання алкаголю – да 15,1 літра абсалютнага алкаголю на душу насельніцтва (100 тыс. чал.) у 2011 годзе. У Беларусі пражываюць каля 1 мільёна грамадзян, якія злоўжываюць алкаголем, каля 200 тыс. хворых на алкагалізм стаяць на ўліку, прычым гэтая лічба практычна не змяняецца дзесяцігоддзямі. Паводле апытання, праведзеннага Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтрам псіхічнага здароўя, 31% беларусаў эпізадычна злоўжываюць спіртнымі напоямі. Такім чынам, трэць насельніцтва краіны ўцягнулася ў гэтак званае бытавое п'янства.

Нагадаем, што абмежаванні па продажу танных пладова-ягадных він дзейнічалі і ў мінулым годзе. Аднак эфект ад гэтай забароны быў мінімальны. Больш таго, гэта мера толькі справакавала спажыванне моцных напояў. Адным з папулярных алкагольных напояў стала гарэлка. Узровень яе продажу ў 2012 годзе вырас у параўнані з 2011 годам на 1,2%. Акрамя таго, эксперты з інстытута сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук падлічылі, што каля 15% беларусаў займаюцца самагонаварэннем.

Гарэлка стала непасрэднай прычынай цяжкіх злачынстваў. Згодна інфармацыі МУС, у стане алкагольнага ап'янення ў Беларусі здзяйсняецца кожнае трэцяе забойства. Больш за палову забойстваў і цяжкіх цялесных пашкоджанняў прыпадаю на родных і блізкіх.

На думку афіцыйных экспертаў, рашэнне аб спыненні вытворчасці пладовых мацаваных ардынарных він у гэтым годзе апраўдана. Насамрэч, урад пад гучнай заявай забараніў вытворчасць таго "чарніла", якое да гэтага ўжо не выпускалі. Як вядома, 49 заводаў па ўласнай ініцыятыве перайшлі на вытворчасць пладова-ягадных він "палепшанай якасці", асноўным матэрыялам для якіх з'яўляюцца беларускія яблыкі. У рэшце рэшт атрымалі ўсё тыя ж вінныя напоі, толькі ў якіх натуральны наброд складае да 10%, астатнія градусы да 20% наганяюцца зерневым спіртам. Што маем у выніку? Колькасць спірту ў палепшаным "чарніле" засталася нязменнай, цана не вырасла, пакупніцкая здольнасць аматараў таннага алкаголю на ранейшым узроўні, даступнасць для шырокіх пластоў насельніцтва абалютная. Дарэчы, у Шуміліне для папулярызацыі гарэлкі і хутчэйшага збыту прыдумалі саракаградусны продукт у стограмовых чарках з рамантычнай назвай "Сяброўка".

З усяго бачна, што табу на "чарніла" праваліласяся, як і усе папулісцкія кампаніі ўладаў. Але чаму дзяржава працягвае спойваць народ, калі мае ўсе рычагі для таго, каб праводзіць сапраўдную антыалкагольную палітыку? Дэмакратычныя палітолагі мяркуюць, што мясцовыя бюджэты наўпрост трымаюцца на алкаголіках, таму што многія сацыяльныя праграмы не выконваюцца. Менавіта невялікія прадпрыемствы з вытворчасцю вінных напояў з'яўляюцца важнай крыніцай папаўнення мясцовага бюджэта. Не будуць жа чыноўнікі піліць той сук, на якім трывала сядзяць. Атрымліваецца, што п'янства – праблема палітычная. Дзяржава робіць выгляд добрага кіраўніка, які зарабляе грошы для насельніцтва, а насамрэч свядома эксплуатуе здароўе грамадзян. На жаль, народ з большага прыняў правілы гэтай небяспечай гульні, трапіў у залежнасць і нічога не хоча мяняць. Адсюль і вынікі мэтанакіраванай алкагольнай палітыкі ўладаў.

Толькі алкагольная авантура ўжо адчувальна б'е і па бюджэту. Лячэнне і рэабілітацыя алкаголікаў абыходзіцца Беларусі ў 9,5 млн. долараў у год. Вось расплата за ўзаконенае абалваньванне мас. Колькі часу яшчэ патрэбна, каб упасці на самае дно?

**Аляксандр Шчамлёў.**

ГАНДАЛЬ

# Калядны кірмаш

**У райцэнтры ладзілі традыцыйны калядны кірмаш. Свята праходзіла даволі ажыўлена. Жыхары і госці мястэчка мелі магчымасць набыць выстаўленыя на продаж тавары, пачаставацца ласункамі, пабачыць прадстаўленне самадзейных артыстаў і самім паўдзельнічаць ў забавах.**

Здаецца, арганізавана ўсё было як звычайна: розныя прадпрыемствы і гаспадаркі Шумілішчыны прадставілі для продажу свае тавары, артысты весялілі народ, былі арганізаваны конкурсы і гульні. Свавольніца зіма наслала ў гэты дзень няслабы марозік, таму народ адразу ж пацягнуўся да ўжо знаёмай палявой кухні. Выстраілася цэлая чарга дзеля духмянай і гарачай поліўкі, ад жадаючых не было адбою: многія хацелі пакаштаваць гэтай смакаты, ды і гарэцца таксама .

Канешне, гандлёвых месцаў было разгорнута не так многа ў параўнанні з восеньскім кірмашом, аднак і тут можна было купіць сельскагаспадарчую прадукцыю. Да прыкладу, з машын прадавалі зерне і нядорага – усяго па дзве тысячы рублёў за кілаграм. Парадавалі і гандлёвыя кропкі райспажыўтаварыства. Кафэ "Фартуна" прапаноўвала мяса на разруб, ну і вядома ж, які кірмаш без шашлыкоў? А вось паколатыя дровы так і засталіся ў машыне – ніхто не адважыўся выкласці паўтара мільёна рублёў за шэсць кубоў. Здрабнеў шумілінскі пакупнік: для кагосці з працоўных гэта амаль палова месячнай зарплаты, а многім старым трэба выкласці з кішэні адразу ўсю пенсію. Затое тавар з лёну і іншай дабротнай тканіны камбіната бытавога абслугоўвання і льнозавода прыйшоўся даспадобы шумілінскім пакупнікам. Аматараў песні і вясёлай музыкі запрашала музычна-мастацкая пляцоўка. Для дзяцей былі арганізаваны гульнёвыя праграмы і атракцыёны. Каля ёлкі Дзед Мароз і Снягурка праводзілі розыгрыш латэрэі. Таксама былі арганізаваны цікавы атракцыён, які карыстаўся папулярнасцю дарослых і маленькіх наведвальнікаў кірмашу каталі ў трох вазках запрэжаных конікі. Як заўсёды, самадзейныя артысты з Дома культуры забаўлялі шумілінцаў вясёлымі песнямі і танцамі. На календары – зіма, а на вуліцы – мароз. Але людзі, што прыйшлі на свята, не пашкадавалі – цудоўна правялі час, адпачылі з шашлыкамі і гарачымі прысмакамі.

**У. Амбросаў.**

ЭКАНОМІКА

# ЦЭГЛУ ЗБЫЛІ, АЛЕ ДАЎГІ НЕ СПІСАЛІ

**Крыху зменшылася вастрыня праблем на Обальскім керамічным заводзе. Склады разгрузілі ад запасаў нерэалізаванай гатовай прадукцыі, знайшлі пастаянных пакупнікоў. Аднак над прадпрыемствам вісіць вялікая запазычанасць за электраэнергію і газ, на новае абсталяванне не хапае грошай, а надзеі на багатага замежнага інвестара не спраўдзіліся.**

Эканамічны заняпад Обальскага керамічнага завода працягваецца ўжо не першы год. Прычым праблемы на прадпрыемстве асабліва востра паўсталі ў 2009 годзе, калі ад прадукцыі адмовіліся расійскія спажыўцы – там была наладжана свая цагляная вытворчасць. У беларускіх будаўнікоў обальская цэгла таксама моцнай цікавасці не выклікае – прадукцыя віцебскага ААТ «Кераміка» значна больш высокай якасці. Будаўнічыя арганізацыі і прыватнікі выбіраюць прадукцыю і яшчэ аднаго канкурэнта – Лагойскага керамічнага заводу, бо лагойская цэгла абыходзіцца ўтрая танней. У складаную сітуацыю трапілі і работнікі прадпрыемства, калі адзін цэх завода быў увогуле зачынены. А ў пошуку выйсця з крызісу обальскія вытворцы цэглы нават пачалі будаваць уласныя цяпліцы. Тым не менш, пад скарачэнне трапілі дзесяткі працаўнікоў, а сотні рабочых пакінулі раён і накіраваліся на заробкі ў суседнюю Расію.

На сённяшні дзень на заводзе пачаліся зрухі да лепшага. Больш удумлівы падыход да маркетынгу дазволіў у разы павялічыць збыт прадукцыі, пазбавіцца ад паслуг пасрэднікаў, знайсці трывалую нішу на рынку і ліквідаваць усе бартэрныя адносіны. Мінуў той час, калі кожны пасрэднік рабіў накрутку цэн да 15%, непасрэдная праца з вытворцамі пазбавіла іх такой магчымасці. Цяпер спажыўцы разлічваюцца грашовымі сродкамі, да таго ж пастаянныя партнёры, якія набываюць больш вялікія аб'ёмы цэглы, маюць права на скідкі. Зараз прадукцыя на складах не залежваецца, а завод ужо некалькі месяцаў працуе без збояў. Большая частка обальскай прадукцыі ідзе на экспарт – нядаўна ў Маскве быў адкрыты дылерскі пункт.

Дала свой плён і работа з кадрамі. Адміністрацыйны апарат быў умацаваны новымі тэхнолагамі і кіраўнікамі структурных падраздзяленняў, удалося стварыць дзеяздольны працоўны калектыў.

Дзякуючы новаму абсталяванню змяніўся накірунак дзейнасці прадпрыемства. Мінулай восенню правялі абнаўленне першага цэха. Былі ўстаноўлены тры адзінкі новага абсталявання: глінарасціральнік украінскай вытворчасці, прас магілёўскай вытворчасці і нямецкая вакуумная помпа. Цэх пачаў вырабляць цэглу пластычнага фармавання. У другім цэху з дапамогай новай тэхнікі выпускаюць абліцовачную цэглу. Праўда, гэты від прадукцыі мае сезонную запатрабаванасць, зімой амаль не знаходзіцца спажыўцоў.

Шчыра кажучы, да мадэрнізацыі яшчэ далёка. Гаворка ідзе аб пастаянных рамонтах зношаных адзінак тэхнікі ды частковым абнаўленні састарэлага абсталявання. Насамрэч, сваіх сродкаў на прадпрыемстве няма, а на замежнае абсталяванне грошы былі выдаткаваны з інавацыйнага фонду Віцебскага аблвыканкама ў суме 2,4 мільярда рублёў.Таму для далейшага развіцця кіраўніцтва завода плануе ўзяць крэдыт на закупку новага абсталявання, якое можа акупіцца праз тры гады.

Аднак фінансавы стан прадпрыемства па-ранейшаму не дазваляе яму падняцца ад цяжару даўгоў. Штомесяц трэба выплачваць 200 мільёнаў рублёў, а ўсяго за электраэнергію і газ завод завінаваціўся на 30 мільярдаў рублёў. Дарэчы, за 2012 год Шумілінскі раён меў самую вялікую запазычанасць за энергапаліўныя рэсурсы. Паводле даных Нацыянальнага статыстычнага камітэта памер даўгоў па аплаце крэдытаў на Шумілiншчыне дасягнуў 31, 169 мільярдаў рублёў ( у 2011 годзе было 13, 323 млрд.руб.) Па усяму відаць, што Обальскі керамічны завод, які ўжо даўно не «градаўтваральнае» прадпрыемства ў мястэчку, адзін пацягнуў уніз цэлы раён.

Між тым, усплыла новая праблема. Завод не можа выйсці на поўную магутнасць з-за дэфіцыту кадраў. Калі на пачатку 2012 года на прадпрыемстве працавала 760 чалавек, то напрыканцы засталося 440 чалавек. І цяпер пераманіць адтуль людзей магчыма толькі годнай заработнай платай. А часу на падрыхтоўку новых прафесіяналаў таксама няма. Як кажуць, лыжка дорага к абеду. Пакуль кіраўніцтва завода асвойвала новыя тэхналогіі і шукала рынкі, людзі разбегліся. Пры ўсім тым, што ў краіне ёсць яшчэ і канкурэнты, якія таксама не будуць чакаць, калі нарэшце Обальскі завод забяспечыць дабрабыт сваіх работнікаў.

**Алесь Шумскі.**

## "СВІТАНАК" У ІНТЭРНЭЦЕ

**Наша газета стала размяшчаецца на партале *http://kamunikat.org/*, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: *http://kamunikat.org/svitanak.html*, што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.**

## АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – зрабіце бесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Рэдакцыя « Світанка » змяшчае бясплатныя абвесткі чытачоў выдання. Дзеля размяшчэння абвесткі патэлефануйце ў рэдакцыю.***

***• Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты «Світанка».***

***• Рэдакцыя запрашае да супрацоўніцтва неабыкавых грамадзян. Вашы навіны, паведамленні – нашая падзяка. Словам, сувенірам***

ПРАФАРЫЕНТАЦЫЯ

# Як замацаваць моладзь у раёне?

**Прадстаўнікі раённай улады правялі сустрэчы ў школах з вучнямі выпускных класаў і настаўнікамі. Мэтамі мерапрыемстваў былі: прафарыентаваная работа і далейшае замацаванне маладых кадраў у раёне. Разама з тым кіраўнікі і спецыялісты інфармацыйна-прапагандысцкай групы імкнуліся надаць станоўчы імідж рэгіёну, расказаць моладзі аб дасягненнях і перспектывах сфераў гаспадарання. А для школьнікаў карысць ад сустрэч была тым, што яны больш даведаліся пра канкрэтныя навучальныя ўстановы.**

Не сакрэт, што праблема замацавання кадраў у раёне адразу трапіла пад пільны кантроль старшыні Шумілінскага райвыканкама Уладзіміра Кураннога. Бо занадта доўгі перыяд у гісторыі раёна напамінаў пра сябе "кадравы" голад, які быў выкліканы шэрагам фактараў. Заўважана, што пасля двух гадоў па размеркаванні больш за палову былых выпускнікоў едзе працаваць у іншае месца, а пасля пяці гадоў іх застаецца толькі трацiна, калі не менш.

Менавіта таму кіраўнік раёна асабіста праводзіў прафарыентацыю ў СШ №1. Размова атрымалася шчырай і адкрытай. Уладзімір Пятровіч не хаваў сваёй занепакоенасці за лёс вытворчай сферы і падзяліўся з выпускнікамі планамі кіраўніцтва. А дасягнуць трэба высокіх вынікаў. Дастаткова толькі сказаць, што кіраўніцтва раёна паставіла задачу ўсім шумілінцам: павялічыць вытворчасць прадукцыі ў два разы. Пасля гэтага магчыма добраўпарадкаванне райцэнтра і пасёлкаў, павышэнне ўзроўня жыцця жыхароў.

Безумоўна, ужо сёння многія выпускнікі, а разам – і іх бацькі задумваюцца, куды пайсці вучыцца. Аб вышэйшай адукацыі марыць большасць, але сітуацыя такая, што на рынку працы цяпер больш запатрабаваны рабочыя прафесіі. Аб гэтым казалі вучням выпускных класаў у Обальскай школе адказныя работнікі з Обальскага завода, сельгаспрадпрыемства "Лаўжанскае", жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

Зрабіць нялёгкі выбар вучням дапамагалі медыкі і настаўнікі. Так, галоўны ўрач раёна К. Баканаў арыентаваў будучых выпускнікоў на медычныя прафесіі, засяродзіў увагу на тым, што маладым спецыялістам у раёне выдзяляецца жыллё. Прысутнічалі і прадстаўнікі розных навучальных устаноў. У школьнікаў, заўтрашніх выпускнікоў, была магчымасць пагутарыць непасрэдна з выкладчыкамі і атрымаць кампетэнтныя адказы на пытанні, якія іх хвалююць. Аб будучай вучобе і сучасных магчымасцях для студэнтаў цікава і даступна расказалі прадстаўнікі Гарадоцкага дзяржаўнага аграрна-тэхнічнага каледжа.

Шумілінскі раён – сельскагаспадарчы, і заробкі тут не самыя высокія. Хаця некаторыя арганізацыі прапануюць зарплату да пяці мільёнаў рублёў. Але гэта – адзінкавыя прыклады, падобныя аклады атрымліваюць кіраўнікі і начальнікі. А такіх вакансій мала. Таму і ў гэтай галіне пасля двухгадовай адпрацоўкі застаецца ў шумілінскіх вёсках не жадаюць нават выпускнікі сельскагаспадарчых спецыяльнасцяў. Як высветлілася, у горад бягуць да трох з пяці выпускнікоў.

Па ўсяму відаць, што мясцовыя ўлады ўсур'ёз вырашылі агульнымі намаганнямі вярнуць моладзь у раён. Кіраўнікам гаспадарак указана бываць у школах штомесяц. І сапраўды, хто калі не яны, дапамогуць моладзі застацца ў родных мясцінах?

**Алесь Прыбярэжны.**

ЗБЕРАЖЭННЕ ПРЫРОДНЫХ БАГАЦЦЯЎ

# ПАРУШАЛЬНІКІ ВЫЯЎЛЕНЫ І ПАКАРАНЫ

**Супрацоўнікі міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету правялі 35 рэйдаў па выяўленню парушэнняў правіл рыбалоўства, палявання, лесакарыстання на тэрыторыі Шумiліншчыны. Вінаватыя былі прыцягнуты да адказнасці, аднак колькасць выпадкаў браканьерства па-ранейшаму не змяншаецца.**

Кругласутачна нясуць варту па ахове і зберажэнні прыродных багаццяў супрацоўнікі Гарадоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету. Падчас рэйдаў па Шумілінскаму раёну за 2012 год выяўлена 47 парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства. Як паказала практыка, з агульнай колькасці парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, якія штогод выяўляюць нашы інспектары, пераважная доля парушэнняў здзяйсняецца менавіта на рыбалоўных угоддзях. Прычым найбольш значная доля парушэнняў Правілаў рыбалоўства прыпадае менавіта на перыяд веснавога нерасту рыбы. У ходзе рэйдавых праверак было выяўлена 27 парушэнняў Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства. Нанесена шкода навакольнаму асяроддзю на суму 10,46 млн. рублёў. Парушальнікі былі аштрафаваны на 20 мільёнаў рублёў, у іх канфіскавана 19 сеткавых прылад лоўлі і 42,3 кг незаконна здабытай рыбы.

Апроч таго, міжраённая інспекцыя зафіксавала пяць парушэнняў Правілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання. Усяго накладзена штрафаў у памеры 6,1 млн. рублёў, прад'яўлена шкоды на 7,09 млн. рублёў, канфіскавана 427 кг незаконна здабытага мяса, адно ружжо. Асаблівa злосных браканьераў судзілі. Пракуратурай заведзены крымінальныя справы ў дачыненні да пяці аматараў "лёгкай здабычы".

Супрацоўнікі інспекцыі выявілілі 13 парушэнняў правілаў лесакарыстання. Дадыя сведчаць аб тым, што з наступленнем халадоў колькасць подобных выпадкаў значна скарачаецца, але не становіцца меней. Грамадзяне працягваюць парушаць правілы нарыхтоўкі і вывазу драўніны, вывозяць дровы, лес, без дакументаў, якія пацвярджаюць законасць іх набыцця, без адзнакі лесніка аб водпуску драўніны, самавольна высякаюць дрэвы. Вельмі часта дзяржінспекцыяй прасякаюцца факты незаконнай парубкі драўніна-кустовай расліннасці, якая не ўваходзіць у дзяржаўны лясны фонд на землях сельскагаспадарчага прызначэння. Грамадзяне незакона знішчаюць кусты, але законам гэта таксама забаронена, таму што неабходна мець лесарубачны білет і ордэр на нарыхтоўку драўніны. Выяўлена звыш тысячы метраў кубічных незаконна сплаванай драўніны, парушальнікі аштрафаваны амаль на 7 мільёнаў рублёў. Усяго за парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства на парушальнікаў накладзена штрафаў на суму 33,08 млн. рублёў, прад'яўлена шкоды, учыненай навакольнаму асяроддзю, на суму 18,1 мільёна рублёў.

**Я. Вайтовіч.**

ДЭМАГРАФІЧНАЯ СІТУАЦЫЯ

# У СНЕЖНІ ПАМЕРЛА ЛЮДЗЕЙ ЎДВАЯ БОЛЬШ, ЧЫМ НАРАДЗІЛАСЯ

**У снежні мінулага года на Шумiліншчыне нарадзілася 15 дзяцей, а пайшлі з жыцця 31 чалавек. На першае студзеня 2013 года ў Шумілінскім раёне налічвалася 18 тысяч 902 чалавекі. За адпаведны перыяд мінулага года было 19 тысяч 415 чалавек. За адзін год шумілінцаў паменела больш як на паўтысячы чалавек.**

Сямёра дзяцей нарадзілся ў гарадскім пасёлку Шуміліна. На тэрыторыі Дабейскага сельсавета нарадзілася трое дзетак, па аднаму – у Лаўжанскім, Мікалаеўскім, Обальскім, Светласельскім і Сіроцінскім. У Мішневіцкім і Каўлякоўскім сельсаветах не зарэгістравана ў снежні ніводнага нованароджанага.

Больш прывабнай выглядае статыстка шлюбаў. Афармілі шлюб за снежань 16 параў, у гэтым як перыядзе год таму было заключана 8 шлюбаў. Судом Шумілінскага раёна было разгледжана 3 грамадзянскіх справы аб скасаванні шлюбу. Па 19 справах мужу і жонцы быў вызначаны трохмесячны тэрмін для прымірэння. Асноўныя прычыны скасавання шлюбаў – няправільныя паводзіны мужа ці жонкі, злоўжыванне спіртнымі напіткамі, а ў выніку – непрызнаня адносіны ў сям'і. Ва ўсіх выпадках ініцыятарамі разводу выступілі жанчыны. У любым выпадку, калі разбураецца сям'я, пакутуюць дзеці. У мінулым месяцы суд пазбаўлена бацькоўскіх правоў у адносінах да сваёй адзінаццацігадовай дачкі грамадзянка Макарэвіч са Слабады.

У снежні памерлі 31 чалавек, у тым ліку сямёра з іх – працаздольнага ўзросту. У структуры прычын смяротнасці ад захворванняўлідзіравалі хваробы сістэмы кровазвароту (памерла 13 чалавек), хваробы новаўтварэння (4 выпадкі), ад старасці – 10 чалавек.

**Алесь Прыбярэжны.**

КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

# СЫН АБАКРАЎ БАЦЬКУ

13 студзеня ў Шумілінскі РАУС звярнуўся рабочы 1958 года нараджэння, з заявай аб тым, што з яго дома пры невядомых абставінах здзейснены крадзёж кампутара, двух мабільных тэлефонаў «ZTE», «SONY-ERICSON» і скуранoй курткі. Супрацоўнікамі РАУС папярэдне ўстаноўлена, што злачынства здзейсніў сын, які знаходзіўся ў гасцях – непрацуючы, раней судзімы за рабаўніцтва жыхар Гомеля 1986 года нараджэння. Супраць яго ўзбуджана крымінальная справа па арт. 205 ч. 2 КК.

# ГОСЦЬ АБРАБАВАЎ ГАСПАДЫНЮ

3 студзеня ў міліцыю паступіла паведамленне ад непрацуючай мясцовай жыхаркі 1971 года нараджэння. Каля 1 гадзіны ночы пасля распівання спіртных напояў з грамадзянінам В. з яе кватэры прапалі два мабільныя тэлефоны і 400 тыс. рублёў. Нанесены ўрон склаў 1 млн. 650 тыс. рублёў. Папярэдне ўстаноўлена, што злачынства здзейсніў рабочы, раней судзімы за крадзеж. Заведзенана крымінальная справа па арт. 205 ч. 2 КК.

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

# ЛАЙДАЧЫЦЬ НЕ ДАЗВОЛЯЦЬ, АЛЕ І ПРАЦАВАЦЬ НЕ ПРЫМУСЯЦЬ

**Прайшло першае пасяджэнне каардынацыйнага савета, на якім былі разгледжаны пытанні забеспячэння законнасці, работы с неблаганадзейнымі сем'ямі і абавязанымі асобамі. На пасяджэнне былі запрошаны прадстаўнікі райвыканкама, аддзелаў адукацыі, работнікі міліцыі, начальнікі розных службаў.**

Аб тым, як у раёне рэалізуецца выкананне Дэкрэта №18, паведаміў намеснік старшыні Шумілінскага райвыканкама Анатоль Зайцаў. У прыватнасці, ён адзначыў, што ў нашым раёне ўжо налічваецца 111 абавязаных асоб. Пры гэтым ад агульнай колькасці абавязаных 89 чалавек завінаваціліся грошы ў раённы бюджэт. Прынамсі, гэты кантынгент грамадзян неахвотна вяртае сродкі. Насцярожвае і той факт, што колькасць прагулаў з боку абавязаных асобаў за апошні месяц мінулага года і пачатку бягучага года таксама павялічылася. У бюджэт паступіла толькі 51,1% неабходных сродкаў, а 22 чалавекі наогул перасталі плаціць, таму што не маюць пастаяннай працы. Былі і такія, што нідзе не працавалі паўгода. Справа адной жанчыны перадана ў суд, а работнікамі міліцыі было рэкамендавана наладзіць больш шчыльнае ўзаемадзеянне з тымі прадпрыемствамі, на якія ўладкаваны абавязаныя асобы. Акрамя гэтага, трэба ажыццяўляць штодзённы кантроль за працоўнай і выканаўчай дысцыплінай, праводзіць растлумачальныя гутаркі, накіраваныя на папярэджванне п'янства, павышэнне адказнасці за выхаванне дзяцей.

У сувязі з гэтым былі заслуханы справаздачы некаторых кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый, якія аслабілі кантроль за нядобранадзейнымі грамадзянамі. Адзін з кіраўнікоў сельгаспрадпрыемства быў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці (аштрафаваны на 400 тыс. рублёў ) за парушэне патрабаванняў кантролю за абавязанымі асобамі. Што тычыцца кіраўнікоў, дык не ўсё залежыць ад іх. Асацыяльныя матулі без спецыяльнасці на сучасным прадпрыемстве нікому не патрэбны. А калі і прынятыя на працу пад прымусам, то не хочуць працаваць. Да таго ж пры нізкай зарплаце цяжка вярнуць даўгі ў дзяржаўную казну. Як бы чыноўнікам не хацелася, каб дзеці жылі пад родным дахам, а гора-бацькі сталі на шлях выпраўлення – сітуацыя не паляпшаецца. Больш таго, пасля распаду сям'і застаюцца пустуючыя кватэры, якія немагчыма здаць новаму наймальніку з-за дрэннага стану. Дарэчы, не лепш паводзяць сябе і сацыяльныя сіроты, якія выхоўваліся ў дзіцячым доме, а затым атрымалі ад дзяржавы льготнае жыллё ў новых кватэрах. Апошні прыклад сведчыць, як тры маладыя асобы, што прыйшлі з дзіцячых дамоў у наш раён, не здолелі адаптавацца да жыцця. Гора-навасёлы за непрацяглы час літаральна ператварылі кватэры ў прытоны для п'янак і гулянак. На каардынацыйным савеце ўзнята пытанне аб іх высяленні.

А пакуль з аналізу вынікае, што колькасныя паказчыкі і лічбы за мінулы год эфектыўнасць мерапрыемстваў ніяк не падцвердзілі. Штогод колькасць нядобранадзейных сем'яў толькі павялічваецца, хуткімі тэмпамі расце алкагалізацыя насельніцтва.

**С. Горкі.**

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# ПАМЯЦІ МІХАСЯ ЧАРНЯЎСКАГА



РАНІШНІ ЗВАНОК УЛАДЗІМІРА АРЛОВА 20 СТУДЗЕНЯ ПРЫНЁС МНЕ СКРУШНУЮ НАВІНУ: ПАМЁР МІХАСЬ ЧАРНЯЎСКІ. ВЕСТКА АБ СМЕРЦІ БЛІЗКАГА ЧАЛАВЕКА ЗАЎСЁДЫ АГЛУШАЕ. У ЯЕ ЦЯЖКА ПАВЕРЫЦЬ. ЦЯЖКА САБРАЦЦА З ДУМКАМІ. ЦЯЖКА НЕШТА ВЫМАВІЦЬ. А СКАЗАЦЬ АБАВЯЗКОВА ТРЭБА. І СКАЗАЦЬ УСЛЫХ. ДЛЯ ЎСІХ. НЕ ТОЛЬКІ ПА ПРАФЕСІЙНАМУ АБАВЯЗКУ ЖУРНАЛІСТА І РЭДАКТАРА.

З той, галоўнае, прычыны, што Міхась Чарняўскі — асоба, чые словы і справы ўжо аказалі ўплыў на развіццё беларускага грамадства, але не страцілі сваёй дзейснай актуальнасці. Гэтай справе ён прысвяціў усё сваё жыццё, аднак яна, на жаль, яшчэ не атрымала свайго лагічнага завяршэння.

Вучоны — гісторык, археолаг. Пісьменнік. Палітык. Грамадскі і культурны дзеяч. Гэта ўсё пра яго. І ўсе гэтыя азначэнні лёгка абагульняюцца пад адно: Міхась Чарняўскі — выбітны асветнік і дзеяч Беларускага Адраджэння канца XX — пачатку XXI стагоддзя. Адзін з яго архітэктараў, яго творцаў.

Свядома абраны шлях. Не скажу, што са школы, бо не ведаю, але дакладна — са студэнцкіх часоў, пра што чуў ад яго. «Нічога сур'ёзнага, — з усцешлівай яму тонкай ироніяй, — жартаваў Міхась. — Так, асцярожна прашчупвалі адзін аднаго на інтарэс да беларушчыны, на жаданне размаўляць на беларускай мове. Своеасаблівая нефармальная кампанія, гурток, клуб па інтарэсах. Нацыянальная самаадукацыя. Праўда, падпольная. Бо добра ўсведамлялі, чым пагражае абвінавачванне ў нацыяналізме»...

Я толькі пачынаў свой шлях у навуку ў аспірантуры Інстытута гісторыі Акадэміі навук, а Міхась ужо быў старшым навуковым супрацоўнікам. І вось — сход працоўнага калектыву: інфармацыя кіраўніцтва аб выкрыцці групы нацыяналістаў. Што ўразіла — патрабавання «крыві» Міхася Чарняўскага ў іх выступах не было. Як не было ў рэзалюцыі і патрабавання аб яго звальненні. Думаю, не па прычыне разумення нацыянальных прыярытэтаў, ад якога тагачасны склад навукоўцаў быў яшчэ вельмі далёка, а з павагі да Міхася Чарняўскага. Яго звольнілі на год па рашэнні бюро ЦК Кампартыі Беларусі на чале з Машэравым. У чымсьці таксама вымушаным — пад ціскам з Масквы.

Ужо пазней, калі мы шчыльна супрацоўнічалі з Міхасём на палітычным попрышчы, а менавіта, аднаўлення беларускай сацыял-дэмакратыі, я меў магчымасць пераканацца, як яго паважалі людзі самых розных поглядаў і пазіцый. І аднадумцы, і праціўнікі. Такім шчырым і добразычлівым ён быў у адносінах з людзьмі. Ён меў бясспрэчны маральны і інтэлектуальны аўтарытэт — для ўсіх, з кім зводзіў яго лёс, на ўсіх этапах жыцця і дзейнасці. Не выпадкова менавіта яму Ларыса Геніюш даверыла на захаванне сваю «Споведзь», якая была апублікавана ўжо ў час палітычных перамен у Беларусі.

Археалогія была паклiканнем Міхася Чарняўскага. Але аднача́сова і інструментам у справе беларускага Адраджэння. Прычым, ці не адзіна легальным у савецкіх умовах. Праз навуковыя і папулярныя працы, мастацкія творы ён адкрываў Беларусь старажытную. А калі сталася магчымым, першы адкрыў нам і тэму антысавецкага супраціву. «Як пошуг маланкі» — кніжка пра Расціслава Лапіцкага абрынула савецкі міф аб палітычнай еднасці савецкага рэжыму.

З навуковай сцяжыны Міхась ніколі не сыходзіў, нават ужо хварэючы, выбіраўся ў археалагічныя экспедыцыі. Планаваў іх і на гэтае лета. Але калі адчуваў мэтазгоднасць, якую вызначаў выключна па крытэру магчымай карысці беларускай справе, не гойдаючыся з галавой акунаўся ў практычную палітыку. Быў у ліку сябраў арганізацыйнага камітэта Беларускага народнага фронту. І ён жа першы, падчас працы ўстаноўчага з'езду БНФ у Вільні (24 чэрвеня 1989 г.) выказаў ідэю аб неабходнасці адраджэння сацыял-дэмакратыі ў Беларусі. Прымаў актыўны ўдзел у стварэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, потым Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Паклаў шмат высілкаў і нерваў на аб'яднанне сацыял-дэмакратыі. На жаль, пакуль не атрымалася...

Здабыткі Міхася Чарняўскага застаюцца ў практычным арсенале беларускага дэмакратычнага адраджэнскага руху.

**Аляксей Кароль, "Новы час".**
**Фота Арцёма Лявы.**

ПРАБЛЕМЫ ЭКАНОМІКІ

# НА «ПАГАЛОЎНУЮ» МАДЭРНІЗАЦЫЮ Ў БЕЛАРУСІ НЯМА ГРОШАЎ

УРАД ДАРУЧЫЎ МІНФІНУ І МІНЭКАНОМІКІ ЗНАЙСЦІ ГРОШЫ НА МАДЭРНІЗАЦЫЮ БЕЛАРУСКІХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ. У МАТЭРЫЯЛАХ САЎМІНА РАНЕЙ ПАКАЗВАЛАСЯ, ШТО Ў 2013 ГОДЗЕ МАДЭРНІЗАЦЫЯЙ БУДЗЕ АХОПЛЕНА БОЛЬШ ЗА ТЫСЯЧУ ДЗЯРЖПРАДПРЫЕМСТВАЎ. ДЛЯ РЭАЛІЗАЦЫІ ГЭТАК ГЛАБАЛЬНАЙ ЗАДАЧЫ СПАТРЭБІЦЦА НЕ АДЗІН МІЛЬЯРД ДАЛЯРАЎ. ДЗЕ ГЭТЫЯ ГРОШЫ ВОЗЬМЕ ДЗЯРЖАВА?

### Мільярды даляраў, якіх не відаць

Паводле заяў урада, «найважнейшым прыярытэтам» ў 2013 годзе з'яўляецца мадэрнізацыя прадпрыемстваў. Падчас селектарнай нарады, якую правёў Міхаіл Мясніковіч ў першыя дні студзеня, было заяўлена, што ў гэтым годзе неабходна будзе закупіць абсталяванне, каб паскорыць тэмпы абнаўлення вытворчых магутнасцяў краіны.

Дакладную суму, якая спатрэбіцца для вырашэння гэтак амбіцыйнай задачы, яшчэ трэба высветліць. Аднак сумнявацца ў тым, што сума гэтая будзе з многімі нулямі на канцы, не прыходзіцца. Дарэчы, мадэрнізацыя толькі мінпрамаўскіх прадпрыемстваў ацэньваецца ў 3,1 млрд. даляраў.

Галоўнае пытанне - дзе знайсці столькі грошай на такую маштабную мадэрнізацыю дзяржпрадпрыемстваў. Неэмісійных сродкаў, за кошт якіх можна было б прафінансаваць гэты праект, пакуль не відаць. Уласных сродкаў прадпрыемствам відавочна не хопіць. Паводле звестак Белстата, больш за палову прадпрыемстваў маюць нізкі ўзровень рэнтабельнасці (да 10%).

«У бюджэце неабходных сум на мадэрнізацыю не закладзена, крэдытныя рэсурсы па існуючым стаўках для прадпрыемстваў недаступныя. Зыходзячы з рэйтынгаў краіны і палітычных рызык, магчымасці прыцягнуць крэдыты ў рамках замежных крэдытных ліній таксама абмежаваныя », - кажа эксперт Naviny.by ў фінансавых колах.

У прагнозных дакументах на 2012 год закладвалася, што за кошт прыватызацыі краіна атрымае 2,5 млрд. даляраў. Па факце атрымалася прыцягнуць ад продажу акцый дзяржпрадпрыемстваў толькі 1,8 млн. даляраў. Таму разлічваць, што за кошт прыватызацыі атрымаецца прыцягнуць грошы на мадэрнізацыю, таксама не даводзіцца.

Тым не менш, ад планаў па мадэрнізацыі дзяржава наўрад ці адмовіцца, паколькі выкананне гэтых планаў прама ўвязана з выкананнем шэрагу дырэктыўных паказчыкаў. Як адзначаў восенню Міхаіл Мясніковіч, «калі мы не забяспечым пагалоўную мадэрнізацыю прадпрыемстваў», то «выходзіць на паказчыкі 2013 года і пяцігодкі будзе вельмі складана».

**Дзмітрый ЗАЯЦ, "Белапан".**

НАША ЎЛАДА

# «ДЗЯРЖАЎНЫ» РОЗУМ

ДЗЕ ЯШЧЭ, У ЯКОЙ КРАІНЕ НА ВЫШЭЙШАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПАСАДЗЕ МОЖНА ПАБАЧЫЦЬ СТРАТЭГА З ТАКІМ УЗРОЎНЕМ ДЗЯРЖАЎНАГА МЫСЛЕННЯ?

"Вы кажаце, што нешта трэба рабіць з чэргамі ў паліклініках... Давайце ўвядзем плату ў памеры 5 тысяч рублёў за наведванне паліклінікі".

Трэба знайсці грошы на фінансаванне вышэйшай адукацыі? Ён, гэты дзяржаўны стратэг, таксама ведае, як вырашыць складанае пытанне. "Давайце з вамі дамовімся на наступны навучальны год: па тых спецыяльнасцях, дзе назіраецца перавытворчасць кадраў, але моладзь гэтая акаліччнасць мала турбуе, праліччвайце сабекошт падрыхтоўкі, дадавайце працэнты прыбытку, якія самі палічыце вернымі, і называйце суму. Мы ўсе жывём ва ўмовах рынку. І калі малады чалавек, нягледзячы ні на што, хоча вучыцца менавіта на гэтай спецыяльнасці, то няхай будзе гатовы выкласці названую суму". ...

Толькі Аляксандр Лукашэнка заікнуўся — стратэг адразу даў адказ, як вырашыць даўнюю і балючую праблему павышэння заробкаў выхавацелям дзіцячых садкоў. "Я прапаную разгледзець пытанне аб тым, каб бацькі плацілі нейкі працэнт ад кошту ўтрымання іх дзяцей у пэўным садку... Вядома, мы б хацелі, каб бацькі аплачвалі хоць бы поўны кошт харчавання сваіх дзяцей. Гэта будзе вырашацца паэтапна, але ў бліжэйшы час трэба выходзіць хаця б на 60—70 працэнтаў аплаты харчавання. Гэтыя грошы мы накіруем на павышэнне зарплаты людзей, якія займаюцца дзецьмі. У выніку гэта будзе садзейнічаць павышэнню якасці адукацыйнага працэсу".

Усе вышэйпрыведзеныя цытаты належаць аднаму чалавеку. І гэты чалавек — намеснік старшыні ўрада, які адказвае за сацыяльны блок, Анатоль Афанасьевіч Тозік. Гісторык па адукацыі, які ўдасканальваў свае веды на вышэйшых курсах КДБ, проста фантануе рэцэптамі "выпраўлення сітуацыі" і "паляпшэння жыцця людзей". Але ад усіх хвароб у яго рэцэпт адзін: як мага больш садраць з простага чалавека....

Ці хоць раз спадар Тозік выступіў з абурэннем тымі мізэрнымі заробкамі, з якіх многія людзі не тое што заняткі дзіцяці ў нейкім гуртку не могуць аплаціць — жыць не маюць за што? Лайдакі, якія не хочуць працаваць, — гэта адна праблема. Але ж галоўная бяда нашай краіны, што нават многія з тых людзей, якія працуюць няблага, не могуць выбіцца на лепшае жыццё. Каб не сказалі, што я ачарняю рэчаіснасць, спашлюся на нядаўні матэрыял "Гомельскай праўды" (афіцыйнай газеты Гомельскага аблвыканкама), дзе апісваўся рэйд мабільнай групы па прадпрыемствах Добрушскага раёна. "Колькі зарабляеце ў месяц?" — запыталіся начальнікі на адным з аб'ектаў. І пачулі ў адказ: "За 320 рабочых гадзін — 1 мільён 300 тысяч рублёў".

Вы ўяўляеце, што такое 320 рабочых гадзін? Гэта болей чым па 10 гадзін штодзённа, без выхадных. І што чалавек мае?.. Пры такіх заробках бацькоў і дзіцячыя садкі, і гурткі, і спартыўныя секцыі, і экскурсіі для дзяцей увогуле павінны быць БЯСПЛАТНЫМІ, каб не выраслі дзеткі маральнымі і культурнымі калекамі. Бо з такіх грошай добрую кніжку не купіш, не тое што не заплаціш за нейкія дадатковыя заняткі.

Але спадар Тозік робіць выгляд, што няма ў краіне праблемы жабрацкіх заробкаў. Ну проста лопаюцца ў людзей ад грошай кішэні і кашалькі, таму Анатоль Афанасьевіч заладзіў адну песню: "Плаціце, плаціце, плаціце..."

А калі няма чым плаціць? У каго ёсць грошы, у тых дзеці даўно ходзяць у камерцыйныя садкі, спецыяльныя школы і прыватныя медыцынскія цэнтры. Але ці задумаўся віцэ-прэм'ер, што ў нашай краіне трэба неяк выжываць і тым, у каго, як ні стараюцца, такіх даходаў няма?

Тым больш што людзі ўжо заплацілі! І за бясплатную медыцыну, і за бясплатную адукацыю. Заплацілі сваімі падаткамі. Вось толькі не туды пайшлі іх грошы. Так, агульнадзяржаўныя расходы (гэта ўтрыманне прэзідэнта, урада, судоў, пракуратур, міліцыі, КДБ і т.п.) у 2006 годзе складалі 32,84% дзяржаўнага бюджэту, а ў мінулым годзе — ужо 52,65%. Затое выдаткі на сацыяльную палітыку ў тым жа 2006 годзе былі ў межах 9,33% дзяржбюджэту, а ў 2012-м — толькі 6,83%. Але не абураецца гэтым віцэ-прэм'ер Тозік, не бачыць хібаў у тым, што чыноўніцтва і сілавікі дзеляць агульныя народныя грошы на сваю карысць. Наадварот, ён настойліва стаіць на тым, што для вырашэння большасці праблем трэба садраць грошы з бедных. Разлік тут ёсць, і ён просты: грошай у небарак зусім не шмат, затое бедных — процьма.

Але самае дзіўнае, што за такі "дзяржаўны розум" спадара Тозіка пасады не пазбавяць, хаця ў любой іншай краіне так бы і было. А ў нас наадварот. Можа, яшчэ Героя Беларусі дадуць...

**Святлана КАЛІНКІНА, "Народная Воля".**

НАША ДАТА

# БЕЛАРУСКАЕ СТУДЭНЦКАЕ СВЯТА

НАЦЫЯНАЛЬНЫМ СТУДЭНЦКІМ СВЯТАМ МАЕ БЫЦЬ ДЗЕНЬ СТВАРЭННЯ ВІЛЕНСКАГА ЎНІВЕРСІТЭТА. ТАЦЯНІН ДЗЕНЬ НЯ МАЕ НІЯКАГА ДАЧЫНЕНЬНЯ ДА СЬВЯТАЎ БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНЦТВА, ПЕРАКАНАНЫ ГІСТОРЫК І ГРАМАДЗКІ ДЗЕЯЧ АЛЕГ ТРУСАЎ.

Гэтым днём павінна лічыцца 30 кастрычніка 1579 году, калі рымскі Папа Грыгоры XIII (той самы, дарэчы, які ўвёў у Эўропе новы стыль летазьлічэньня) сваёй булаю зацьвердзіў прывілей караля Стэфана Баторыя аб утварэньні Віленскай акадэміі.

“Калі расейская імпэратрыца Лізавета Пятроўна падпісала амаль 260 гадоў таму ў дзень вялікамучаніцы Тацяны загад аб стварэньні Маскоўскага ўнівэрсытэту, Беларусь жыла ў сваёй незалежнай краіне. І Тацянін дзень ня мае ніякага дачыненьня да сьвятаў беларускага студэнцтва,

расказаў вядомы гісторык і грамадзкі дзеяч Алег Трусаў.

Указ Лізаветы Пятроўны пра стварэньне Маскоўскага ўнівэрсытэту датуецца 25 студзеня 1755 году, пасля чаго беларускія землі яшчэ паўстагодзьдзя заставаліся незалежнымі ад Расейскае імпэрыі. Таму сьвяткаваньне гэтак званага Тацянінага дня ў сёньняшняй Беларусі ёсьць вынікам сьвядомага навязваньня нашай моладзі чужых традыцыяў, гаворыць Алег Трусаў: «Калі людзі ня ведаюць гісторыі, то тады яны трапляюць у сьмешныя сытуацыі. Калі ствараўся Маскоўскі ўнівэрсытэт, Беларусь не ўваходзіла ў Расейскую імпэрыю. Таму ніякага дачыненьня Тацянін дзень да Беларусі ня мае ні зь якога боку».

У беларускіх студэнтаў за сваё нацыянальнае студэнцкае сьвята мае быць дзень стварэньня Віленскага ўнівэрсытэту, які да Лізавецінскага ўказу налічваў ужо амаль 200-гадовую гісторыю і быў найстарэйшым ва ўсёй Усходняй Эўропе.

Гэта, дарэчы, прызнавалася нават за савецкай уладай, гаворыць Алег Трусаў: «Яшчэ калі існаваў Савецкі Саюз, усе ведалі, што самы старажытны ўнівэрсытэт на тэрыторыі СССР — гэта Віленскі. І літоўцы ў свой час дабіліся, што 400-гадовы юбілей Віленскага ўнівэрсытэту сьвяткаваўся на ўсесаюзным маштабе. Была нават выдадзеная паштовая марка Савецкага Саюзу з выявай галоўнага корпусу ўнівэрсытэту і датаю — 400 гадоў».

Віленскі ўнівэрсытэт створаны паводле прывілею караля Стэфана Баторыя, выдадзенага ў 1578 годзе. Але афіцыйнаю датаю ягонага адкрыцьця лічыцца 30 кастрычніка 1579 году, калі рымскі Папа Грыгоры XIII (той самы, дарэчы, які ўвёў у Эўропе новы стыль летазьлічэньня) сваёй булаю зацьвердзіў прывілей караля Стэфана Баторыя. На двух факультэтах Віленскага ўнівэрсытэту выкладаліся ўсе на той час прыродазнаўчыя і гуманітарныя дысцыпліны. Абавязковымі для ўсіх студэнтаў былі клясычныя мовы — грэцкая, лацінская і габрэйская; новыя — нямецкая і француская, і мова дзяржаўнага справаводзтва ВКЛ — беларуская.

**”Радыё Свабода”.**

САЦЫЯЛЬНАЕ ПЫТАННЕ

# ПЕНСІЙНАЯ РЭФОРМА. ДЗЯРЖАВЕ ПАРА ГУЛЯЦЬ НА АПЯРЭДЖАННЕ

ПАВОДЛЕ ЗВЕСТАК БЕЛСТАТА, КОЛЬКАСЦЬ ПЕНСІЯНЕРАЎ У КРАІНЕ ДАСЯГНУЛА 2,5 МІЛЬЁНА. СООТНОШЕНИЕ КОЛЬКАСЦІ ПРАЦУЮЧЫХ ДА ПЕНСІЯНЕРАЎ ЗМЕНШЫЛАСЯ ДА 1,5. БЕЛАРУСКІМ УЛАДАМ САМЫ ЧАС СУР'ЁЗНА ЗАДУМАЦЦА ПРА ЗМЕНЫ Ў ПЕНСІЙНАЙ СІСТЭМЕ.

**Але ці пойдзе кіраўніцтва краіны на пенсійную рэформу?**

Пра тое, што пенсійнай сістэме патрэбна рэформа, незалежныя эксперты казалі даўно. Ды і самі ўлады, хутчэй за ўсё, разумеюць гэта, але замахнуцца на сьвятое для народа ў шкоду сабе не хочуць. Аднак сітуацыя ў гэтай сферы складваецца так, што ў бліжэйшы час кіраўніцтву краіны прыйдзецца задумацца аб непапулярных крокаў.

Нягледзячы на тое, што ў 2012 годзе Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва (ФСАН) атрымалася сфармаваць з прафіцытам, ужо да 2014 году, па прагнозах Сусветнага банка, ФСАН можа сутыкнуцца з дэфіцытам.

У кіраўніцтва краіны ёсць некалькі варыянтаў гульні на апярэджанне. Кожны з іх утрымлівае меры, якія будуць вельмі хваравітыя для ўладаў, так як прадугледжваюць шэраг эканамічных і палітычных рызык.

**Павысіць пенсійны ўзрост - апошняе, на што пойдзе кіраўніцтва краіны**

Этап, які праходзілі практычна ўсе еўрапейскія краіны - павышэнне пенсійнага ўзросту. Гэтая мера выключна нежаданая для ўладаў, бо, па сутнасці, гэта ўдар у самае сэрца беларускай ідэалогіі, разбурэнне патэрналісцкага міфа. У рыторыцы прэзідэнта і іншых службовых асоб не раз гучаў тэзіс аб тым, што ў адрозненне ад нашых заходніх і ўсходніх суседзяў Беларусь - сацыяльная дзяржава для народа, і таму ўлады не пойдуць на такі крок.

Яшчэ ў красавіка 2012 года Аляксандр Лукашэнка загаварыў пра неабходнасць рэфармавання сістэмы пенсійнага забеспячэння, але без павелічэння пенсійнага ўзросту: «Удасканальваючы пенсійную сістэму, мы адкідаем варыянт, па якім пайшлі Еўропа, Украіна, іншыя краіны - павышэнне пенсійнага ўзросту».

І на самай справе, падвышаючы пенсійны ўзрост, улады будуць секчы сук, на якім сядзяць: у электарацe Лукашэнка шмат людзей перадпенсійнага ўзросту і пенсіянераў. Павелічэнне ўзросту выхаду на пенсію напэўна негатыўна адаб'ецца на і без таго не занадта высокім сёння рэйтынгу прэзідэнта.

Такім чынам, на павышэнне пенсійнага ўзросту ўлады ў агляднай перспектыве (па крайняй меры, да прэзідэнцкіх выбараў 2015 года) наўрад ці пойдуць. Як і іншыя наспелыя праблемы, гэтую ўлады вырашылі адсунуць на потым.

Яшчэ адным малаверагодным варыянтам скарацiць магчымы дэфіцыт ФСАН з'яўляецца памяншэнне памеру пенсіі. Такі ход падзей, можа, і не выкліча сацыяльны выбух, але масавая незадаволенасць будзе забяспечана. Пенсіі ў Беларусі і так вельмі сціплыя.

Так, сярэдні памер пенсіі па ўзросце ў 2012 годзе склаў 182,6 даляра. Плануецца, што ў 2013 годзе паказчык узрасце да 218,1 даляра ў эквіваленце. Аднак пакуль абяцанае на люты павышэнне пенсіі адменена - на гэта няма грошай.

Акрамя таго, улічваючы сярэднюю працягласць жыцця ў краіне (мужчыны - 66 гадоў, жанчыны - 77), можна канстатаваць, што многія беларусы не паспяваюць ў поўнай меры скарыстацца і гэтымі сродкамі.

**Улады ахвяруюць эфектыўнасцю, каб залатаць дзіркі**

Не з'яўляецца магчымым рашэннем праблемы і павышэнне падатковых адлічэнняў у ФСАН. У іншай сітуацыі ўлады, можа быць, і скарысталіся б такім спосабам, але не цяпер, ды і памерам адлічэнняў расці няма куды.

Цяпер яны складаюць 35% ад фонду заработнай платы, прычым асноўны цяжар - 34% - ляжыць на наймальнікаў. У выпадку ж калі наймальнік з'яўляецца і работнікам і працадаўцам, памер падаходнага падатку і выплат у ФСАН можа перавысіць 50% ад заробку.

Такі ўзровень адлічэнняў працадаўцаў з'яўляецца адным з самых высокіх у свеце. Акрамя таго, ён штурхае да ўтойванню рэальнага памеру даходу. Як правіла, наймальнікі зніжаюць афіцыйныя лічбы, выкарыстоўваюць схему зарплаты ў канверце. Такое становішча рэчаў паказвае неэфектыўнасць сённяшняй сістэмы сацыяльнага забеспячэння ў цэлым.

Хутчэй за ўсё, для падтрымання ўзроўню пенсійнага забеспячэння без павышэння ўзросту выхаду на пенсію ўлады паспрабуюць абысціся малой крывёю і пойдуць на датаванне ФСАН, напрыклад, за кошт пазабюджэтных крыніц.

Для павышэння эфектыўнасці пенсійнай сістэме патрэбныя рэформы. Нясмелы крок улады зрабілі, даўшы магчымасць дыферэнцыраванага павышэння пенсіі за кошт больш позняга выхаду на яе. Такія меры прадугледжвае ўказ прэзідэнта № 136 ад 18 сакавіку 2012 «Аб мерах па ўдасканаленні пенсійнага забеспячэння грамадзян».

Аднак гэтага недастаткова. Неабходна развіваць сістэму пенсійнага страхавання, пераходзіць да назапашвальнай сістэмы пенсійнага забеспячэння і пераразмеркавання цяжару выплат у ФСАН паміж наймальнікам і працаўніком.

**Мікіта Бляяеў, naviny.by.**

НАША ГРАМАДСТВА

# НАВАПАЛОЦКІ КАНТРАЛЁР, ЯКУЮ ЦЯГАЛІ ЗА ВАЛАСЫ, ЗМЯНІЛА ПРАЦУ

ПАСЛЯ ЗДАРЭННЯ Ў НАВАПОЛАЦКІМ АЎТОБУСЕ КАНТРАЛЁР ЛЮДМІЛА ШАХЛІНА ЗМЯНІЛА ПРАЦУ. А АБВІНАВАЧАНЫ, ЯКІ НАНЁС ЁЙ ТРАЎМЫ, ДАГЭТУЛЬ НЕ ПАПАРАСІЎ ПРАБАЧЭННЯ.

“Людміла Іосіфаўна напісала заяву. Пасля таго інцыдэнту яна працаваць на былым месцы чыста маральна не змагла, — распавядаюць у ідэалагічным сектары аўтапарка №6 г. Наваполацка. — Цяпер яна працуе ў нас, але на іншай пасадзе”.

Відэа скандальнага інцыдэнту ў наваполацкім аўтобусе разышлося па інтэрнэце напрыканцы лістапада. Людміла Шахліна (так гучыць яе сапраўднае прозвішча) даволі жорстка спрабавала спагнаць штраф з сям'і — мужа, жонкі і двух малых дзяцей. За сям'ю заступіўся 22-гадовы грамадзянін, які схапіў кантралёра за валасы і нахіліў, траўмаваўшы той шыю.

Відэаролік здарэння выклікаў спрэчкі: ці законна дзейнічала кантралёр і хто гэты хлопец — хуліган ці Робін Гуд.

“Ведаем, што была вочная стаўка, якая ні да чаго не прывяла, — працягваюць распавядаць у ідэалагічным сектары аўтапарка. — Выбачэнні не былі атрыманы. Грамадзянін Мікалай Б. не збіраецца прасіць прабачэння”.

“Проста спрабуюць закрыць гэту справу за недаказанасцю нейкай. Вырашаецца, ці мы пойдзем на нейкае прымірэнне, ці справу накіруюць у суд”, — выказваецца Людміла Іосіфаўна.

Верагодна, ужо найбліжэйшым часам мы даведаемся пра развязку скандальнага здарэння ў наваполацкім аўтобусе.

У сапраўдны час следства працягваецца. Тэрмін заканчваецца ў панядзелак 28-га студзеня. Пра прынятае працэсуальнае рашэнне мы паведамім дадаткова.

**Яўген Валошын, “Еўрарадыё”.**

НАШ ГЕРОЙ

# ГАЛОЎНЫ ГЕРОЙ БЕЛАРУСКАГА СЭРЦА

КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ — ПЕРШЫ ЗАСТУПНІК ЗА БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА, ВЕРУ І НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ НАШАГА КРАЮ — СТАЎ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ГЕРОЕМ НЕ АД ТАГО, ШТО ТАК ПАСТАНАВІЛІ РАДА БНР АБО ЦК КПБ. ЯГОНЫ ВОБРАЗ ВЯЛІКАГА СПРАВЯДЛІВАГА ПАКЛАЎСЯ НА БЕЛАРУСКУЮ ДУШУ, КУДЫ Б СКІРАВАНАЮ ЯНА НІ БЫЛА. ЯГО ПРЫНЯЛІ І КАМУНІСТЫ І НАЦЫЯНАЛІСТЫ І ПРОСТА БЕЛАРУСКІЯ ЛЮДЗІ.

У мінулую вайну савецкі партызанскі атрад імя Каліноўскага мог спаліць вясковую школку толькі за тое, што настаўнік выкладае дзеткам зьмест «Мужыцкае праўды»: «Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над табой маскаля ўжо ня будзе»…

Мноства вядомых вершаў, раманы і нават пачатак беларускага кінэматографу — пра яго.

Супраць яго, прызнанага беларусамі ўсіх адценьняў, веравызнаньняў і палітычных поглядаў, можа быць толькі небеларус, толькі нехта з-за межаў нацыі, чужынец.

Як той масквіч, што фундаваў у Менску эрпэцэшную царкву на вуліцы Каліноўскага і назву вуліцы патрабаваў зьмяніць. Улады знайшлі кампраміс (не замахнуліся на імя Справядлівага) — перайменавалі толькі частку вуліцы з гэтай самай царквою.

Каліноўскага нельга не любіць, калі ты беларус. Гэтае імя мацнейшае за кожны іншы знак нашае тоеснасьці. У Беларусі ўсе ад вясковай бабулькі да экзальтаванага сталічнага школьніка, ад бамжа да пасьпяховага бізнэсоўца, ад рэжымнага чыноўніка да дысыдэнта скажуць табе, што Каліноўскі — наш.

Што хаваецца за гэтым фэномэнам? Думаю, глыбока схаваная ў душы ўзаемнасьць.

Выпускнік Пецярбурскага ўнівэрсытэту вяртаецца на радзіму і становіцца лідэрам «польскага» паўстаньня ў сваім краі. Выдае першую беларускамоўную газэту. Шукае паразуменьня з простым народам. Ані каліва няшчырасьці або «прагматызму». І — што б ні гігікалі цяперашнія афіцыёзьнікі — ідзе на эшафот.

Як Хрыстос.

Чысты, беззаганны, сымбаль справядлівасьці. Тут паралель робіцца абсалютнай. Пілат паслаў Хрыста на самую ганебную сьмерць — расьпяцьце на крыжы. Так каралі толькі бандытаў. Расейскі губэрнатар Мураўёў паўтарыў тое самае з Каліноўскім.

Замест расстрэлу, які «належаў» ваеначальніку ўсяе Беларусі і Літвы, ён у апошні момант загадаў Каліноўскага павесіць. Як бандыта. І як Хрыстос аб'яднаў і аб'ядноўвае розных людзей у супольнасьць Людзі, так Каліноўскі аб'ядноўвае супольнасьць Беларусы.

«Дэгераізаваць» яго для нашага народу — тое самае, што для чалавецтва «дэгераізаваць» Хрыста. А гэта значыла б зьнішчыць у нашых дачыненьнях паняткі справядлівасьці, шчырасьці і сумленьня, што ўвасобленыя найперш у постацях Хрыста і Каліноўскага, і гадаваць нашчадкаў, не абцяжараных гэтымі якасьцямі.

У адрозьненьне ад сымболікі і мовы, якія на вуліцах і ў эфірах яшчэ можна чымсьці замясьціць, на месцы сплюжанага нацыянальнага героя ў беларускім сэрцы застанецца пустата.

**Сяргей Дубавец, Радыё Свабода.**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.
**Падпісана да друку 30.01.2013 у 18.35.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.